# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (264) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 4 САКАВІКА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

У СУВЯЗІ З 8 САКАВІКОМ — МІЖНАРОДНЫМ СВЯТАМ ЖАНЧЫН — УСІМ ЖАНЧЫНАМ ШЛЕМ САМЫЯ ЦЁПЛЫЯ ПРЫВІТАННІ І ПАЖАДАННІ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ І ЖЫЦЦІ.

ГП БГКТ

Рэдакцыя «НІВЫ»

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

4 сакавіка мінае роўна 6 год ад таго дня, калі ўгледзеў дзённае святло першы нумар «Нівы». Вы думаеце, што зараз пачнем хваліцца: толькі то, маўляў, і толькі мы зрабілі, толькі то і толькі атрымалі лістаў, т го то і таго мы дабіліся, такія то і такія перад намі заданні. Не, гэтым разам рабіць гэтага не будзем (хоць і не грэх аб гэтым пры такой аказіі сказаць). Не будзем таксама біцца ў грудзі, што, маўляў, тое ўпусцілі, таго не даглядзелі (хоць і такія моманты ў нашай працы, несумненна, знайшліся б). Сёння, выкарыстоўваючы зручную нагоду, хочам звярнуцца з просьбай да Вас, Дарагі Чытачы, каб Вы сказалі аб нас сваё слова. Яно нам найдаражэйшае, да яго мы найбольш прыслухоўваемся, яно нам вызначае шлях. Толькі, калі мы да Вас адносімся з поўным даверам, просім аб узаемнасць. Гаварыце шчыра. Мы на Вас не пагневаемся, калі і пачуем суровыя словы крытыкі. Не заўсёды ж нам крытыкаваць. А да таго — як кажуць разумныя людзі — крытыка памагае. Каб лягчэй было Вам разабрацца ў газетных справах, мы апрацавалі анкету, якую змяшчаем на 7 старонцы. Хопіць тады адказаць на пытанні, змешчаныя ў ёй, і выслаць на наш адрас. Калі каму, па тых ці іншых прычынах, не адпавядаюць гэтыя пытанні, і калі хто хацеў бы паставіць іх інакш, або напісаць аб «Ніве» шырэй, просім дасылаць свае думкі лістоўна.

Ну вось і выйшаў новы конкурс. Тады засталося нам толькі паведаміць, што анкеты будзем змяшчаць у некалькіх нумарах, што сярод удзельнікаў конкурсу будуць разлясаваны кніжныя ўзнагароды і што адказы (выпаўненыя анкеты, або лісты) дасылаць да 1 мая г. г.

Чакаем!



НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ШТО ЧУВАЦЬ У ХОРЫ ГП БГКТ?

Гэтая песня запаланіла нас з першых гукаў. Павеяла вёскай, лугам і матчынай ласкай. Хор спыняўся, паўтараў па некалькі разоў тыя самыя куплеты. Нармальна, як на кожнай рэпетыцыі. Не ўсё складна выходзіла, а ў вушах гучала ўжо непаўторная мелодыя, і ва ўяўленні стаялі ўсхваляваныя твары гледачоў.

З гэтага лірычнага настрою вырваў нас патрабавальны і адначасова дружалюбны вокліч дырыжора:

— Раўней, басанятка, раўней!

Дзецюкі з задніх радоў падміргнулі адзін да другога, і песня выраўнялася.

У час перапынку мы папрасілі дырыжора Галену Куляшэвіч на інтэрв'ю.

**«Ніва»:** Пасля некаторай адлучкі Вы зноў у нашым калектыве. Міла бачыць Вас. Перш за ўсё, як працуецца?

**Г. Куляшэвіч:** На працу не наракаю. Калектыў здысцыплінаваны і, што самае важнае, людзі любяць спеў і музыку. З такімі заўсёды працуецца добра і прыемна.

**«Ніва»:** Мы прыкмецілі, што ў калектыве з'явілася шмат новых асоб. Новае папаўненне, ці славутая кадравая цякучасць?

**Г. Куляшэвіч:** І адно і другое. Цяперашні хор налічвае каля 60 асоб, з гэтага — 50 новых. Прышлі людзі непадрыхтаваныя. Трэба было працу пачынаць з азоў. Але найцяжэйшае ўжо за намі.

**«Ніва»:** Ці гэта значыць, што ўжо няма цяжкасцей?

**Г. Куляшэвіч:** Цяжкасці, зразумела, ёсць, але іншага характару. Ну, напрыклад. Асноўны склад калектыву гэта рабочыя. Працуюць яны на розных зменах. Таму не заўсёды ўдаецца на рэпетыцыях сабраць поўны камплект. Прыходзіцца з імі працаваць адзельна. Прыдалася б таксама лепшая зала, бо ў гэтай дрэнная акустыка.

**«Ніва»:** Калектыў працуе над новай праграмай. У якім яна ідзе напрамку?

**Г. Куляшэвіч:** У напрамку народных песень. 90% з іх — песні беларускія, рэшту складаюць песні польскія, рускія і украінскія.

(Працяг на стар. 4)



## ЖАНЧЫНЫ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

ВЕСТЫ БССР

Шмат журботных песень, шмат казак склаў беларускі народ аб горкай жаночай долі. Народны паэт Беларусі Якуб Колас у сваім вершы «Доля батрачкі» пісаў:

— Будзь паслушная,
дачушка, —
Навучае матка:
— Дагаджай чужым ты,
служка,
Ды цярпі, дзіцятка!

Пераважная большасць працуючых жанчын у дарэвалюцыйнай Беларусі была наймічкамі і батрачкамі ў капіталістаў і памешчыкаў. У тыя часы не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе цяжка было знайсці адукаваную жанчыну. Паводле перапісу 1897 года ў трох найбуйнейшых губернях — Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай налічвалася ўсяго толькі тры працэнты адукаваных жанчын. Жанчына была пазбаўлена палітычных правоў. У быце і ў сям'і яна знаходзілася ў прыніжаным становішчы. Нават пашпарт і той ёй па царскім законам не выдавалі. Яна толькі магла значыцца ў пашпарце мужа. Вядомую вучоную матэматыка Зоф'ю Кавалеўскую, нашу зямлячку, славутую ўжо ў той час на ўвесь свет, царскія прыслужнікі не дапусцілі да працы ва універсітэце.

І ўсяму гэтаму бяспраўю, паніжэнню і бязвыхаднасці палажыла канец Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя.

Гордасцю нашай рэспублікі лічацца такія заводы як аўтамабільны, трактарны, шарыкападшыпнікавы, Гомсельмаш, Магілёўская шоўкавая фабрыка, завод паточных ліній. Загляньце ў цэхі, лабараторыі, канструктарскія бюро гэтых і іншых прадпрыемстваў. Колькі там працуе жанчын!

Арэолам славы і пашаны акружаны ў нас у рэспубліцы працаўнікі вёскі. Савецкая ўлада падняла жанчыну - сялянку на небывалую вышыню. У нашай рэспубліцы выраслі выдатныя майстры высокіх ураджаяў, вялікіх надояў малака, спецыялісты сельскай гаспадаркі, перадавыя механізатары.

Ордэны і медалі ззяюць на грудзях дзесяткаў тысяч жанчын удзельніц Айчыннай вайны і партызанак. Слава аб баявых подзвігах беларускіх жанчын ніколі не згладзіцца з народнай памяці. З вуснаў у вусны перадаюцца расказы аб бястрашшы і мужнасці Герояў Савецкага Саюза Галены Мазанік, Мар'і Асіпавай, Надзеі Траян, Ганны Маслоўскай, Галены Стэмпкоўскай, Галены Калясовай, Фрузы Зяньковай, Зінаіды Тусналобавай.

(Працяг на стар. 2)

# БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

Сканструяваная І. Лукасевічам ў XIX ст. газавая лямпа ўтрымалася да нашых часоў. Намнога ўдасканаленая, яна аддае немалыя паслугі людзям па сённяшні дзень там, дзе няма яшчэ электрычнасці. Але якая бяда, калі няма адной з удасканальваючых яе частак, а менавіта шкла. Што ж сёння варта газавая лямпа без спецыяльнага палераванага шкла. Ад «капцюшак» людзі ўжо адвыклі, бо не жывем жа ў сярэднявякоўі. А кіраўніцтва ГС у Нарве (Гайнаўскі павет) хоча хіба, каб адвыклі вёскі (тыя не электрыфікаваныя яшчэ) ад добра асвятляючых лямп. Апошнім часам шкло да газавых лямп ГС даставіла ў вясковыя крамы яшчэ ранній восенню... Людзі надарэмна пытаюцца ў прадаўшчыкоў вясковых крамаў «ці ёсць шкло да лямпы?» Кіраўніцтва ГС у Нарве не павінна задавальняцца тым, што яго бюро асвятляе электрычнасць, бо нават «жалезныя» інтарасанты вечарам вяртаюцца да сваіх хат у вёсках.

М. К.

## ПАДАРАК ЖОНЦЫ



Прымеркі



— Што ты! Мне зусім не было страшна!




Вось і масленіца настала. Пры адным толькі ўспаміне аб грачаніках, чалавек сліну коўкае. Цягнеш гэткае цуда на талерку, адрэжаш сабе кусочак, умакнеш у масла ды ў рот! Калі да такіх аладачкаў дадаць вяленай рыбкі, дык і святыя апосталы абліжуцца.

Бываюць у нас людзі, для якіх масленіца ўвесь круглы год круціцца. Падчас, абжор такіх адцягваюць ад едла за вушы ды яшчэ прыгаварваюць: не заўсёды кату масленіца. Тады для такіх людзей пачынаецца вялікі пост, які часам працягваецца нават да 10 год.

Зразумела, што аладкі, гэта толькі дадатак да масленіцы. Галоўная тут весялосць, вечарынкі з танцамі, санкі.

З выпадку масленіцы ў нашай вёсцы Кастусь вырашыў арганізаваць гэтыя дні культурна і без ўсялякіх індывідуальных пагладаў. З гэтай мэтай ён недзе раздабыў ключ ад нашай святліцы, якая ўжо два гады была замкнутай. Жыхары ахвотна павалілі ў святліцу. Адны з цікавасці, ці не пакралі лавак, другія прыйшлі з надзеяй, што ад масленіцы наступіць пералом на грамадскім культурным фронце, а трэція проста так.

Кастусь, як галоўны арганізатар, пеўнам круціўся ля стала, пасля пастукаў алоўкам, прыклікаючы да цішыні, і пачаў:

Грамадзяне забытыя гарадскім шэфам! У горадзе сеймік культуры адбыўся. Спрэчкі былі так абшырныя, што на прапановы месца не засталося. А ў нас апрача гэтага заіржавелага ключа ад дзвярэй святліцы нічагусенька не напамінае аб культуры. Няма чаго гаварыць вам аб гісторыі масленіцы з часоў Грознага і аб уплыве яе на міжнароднае становішча. Скажу коратка. Сёлета масленіцу сустрэнем цвяроза, а не так, як у час снежаньскага тыдня цвярозасці, калі перад манапалькамі стаялі закручаныя чэргі. Аблізвацца не спяшайцеся. Аладкаў не будзе, таму што ў нашым гандлі адсутнічае грачаная мука. Вечарынкі дазваляюцца, нават і баль-маскарад, абы толькі маскі былі адпаведныя з палітычнага боку гледжання. Напрыклад, можна пераапрануцца паяцам падобным на Чомбе, або акулай, як сімвал капіталізму. Танцы адмяняюцца. Замест іх будзе даклад аб нормах кармлення жывёлы ў час посту. Масленіцу сустрэнем калектыўна пад лозунгам: «перад вялікім пастом, не круці хвастом».

Весяліцца ў час масленіцы можа кожны грамадзянін, які атрымаў на гэта дазвол грамадскай рады. Клапоцячыся аб такім дазволе, мы гэтым самым ажывім дзейнасць камісіі культуры пры радзе, якая да гэтага часу нават пальцам у боце не кіўнула. На гэтым канчаю. Хто супроць прапаноў, прашу застацца ў святліцы.

У святліцы застаўся толькі Кастусь. Людзі ў нас свядомыя.

*Дзядзька Лявон*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

«Дарагая «Ніва»! Прашу змясціць у нейкім нумары песню «Ручнічок». Мы чулі яе па радыё і яна нам вельмі спадабалася. На жаль слоў усіх мы не ведаем.

Оля Сэверын,
Мастаўляны, Беластоцкі павет».

**Выконваем Вашу просьбу.**

# О, МАТУЛЯ МАЯ

Словы А. Малышкі
Пераклад М. Аўрамчыка

Музыка П. Майбарады




**О, матуля мая, ты начэй недаспала**
**І вадзіла мяне у палі край сяла,**
**І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла.**
**І ручнік вышываны на шчасце дала.**
**І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла,**
**І ручнік вышываны на шчасце, на долю дала.**

**Хай квітнее на ім луг і росная сцежка,**
**І над рэчкаю гай, салавей дзе пяе,**
**І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,**
**І журботныя добрыя вочы твае.**
**І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,**
**І журботныя добрыя, сінія вочы твае.**

**Я вазьму той ручнік, пасцялю, быццам долю,**
**Ў ціхім шолаху траў, ў шчабятанні дуброў,**
**І на тым ручніку усё ажыве, што знаёма да болю,**
**І маленства й разлука й да сына любоў.**
**І на тым ручніку усё ажыве, што знаёма да болю,**
**І маленства й разлука й да роднага сына любоў.**

САМАДБСЛУГОЎВАННЕ



## ПЕВЕНЬ

Настаўнік: скажы, Коля, чаму певень, калі спявае, дык заплюшчвае вочы?

Вучань: бо ўмее напамяць.

**Сцяпан Грыгарук**
Галады

## У РЭСТАРАНЕ

Кліент да афіцыянта:
— Чаму мая порцыя меншая, чым у гэтага грамадзяніна, што сядзіць побач?

— Бо яго ПКС ад'язджае пазней, чым ваш.

**Коля Беразавец**
Саколка

## КАЛІ ГАВАРЫЦЬ

— Ізноў ты, душачка, гаварыў праз сон, — кажа раніцою жонка мужу.

— Не гневайся, мілая, — адказвае муж пакорна. — Калі ж мне гаварыць, як не ўночы. Праз увесь дзень не дасі дайсці да слова.

**Вася Парфенюк**
Плюшічы

ДА 6-ТАЙ ГАДАВІНЫ «НІВЫ»

# ВАЛКАВЫЧЧАНКА

**(Песня галоўнага рэдактара «Нівы». Спявае на мелодыю «Раскинулось море широко»)**

**Ён шмат пазваляе, — чуваць галасы, —**
**Пускае начальства ў батлейку.**
**Трэ' вушы нацерці табе, с.... сын.**
**За грэх пасадзіць у балейку.**

**Злітуйцеся, братцы, у чым жа, у чым,**
**У чым жа я тут вінаваты?**
**Я крытыку знізу уводжу у чын.**
**Грамадскай праблемай заняты.**

**Мы крытыку знізу усе ад душы**
**І цэнім і любім як шперку,**
**Ды ў кія канцы два, вось так запішы**
**Каб часам не стукнулі зверху.**

**Куды ж мне падацца, каго мне крануць,**
**Усе як адзін дакараюць:**
**Аб тым не пісалі, а гэтым не нудзь,**
**Змясці мой партрэт — іншы раіць.**

**Хіба засталося мне толькі ўзапар**
**Вясці бой у рэдакцыі спрачальны.**
**Вось тут дык у сапраўднасці бог я і цар**
**І воінскі тут я начальнік.**

**Плыві ж мая лодка, на хвалях плыві,**
**Ці дойдзеш да мэты калі ты?**
**Абцертыя рукі, баляць мазалі,**
**А бераг туманам заліты.**

Запісаў **КРОПКА**

## ПРОШЛЫ ЧАС

— Янка, скажы які гэта час: «я прыгожая», — пытае на ўроку настаўніца.

— Э, гэта ўжо прошлы час, — адказаў Янка.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## ЛЕПШ НЕ СКАЖАШ

— Чаму вунь той бусел стаіць на адной назе?

— Таму што ён паляцеў бы, каб і другую падняў.

